# СВАБОДА

**№12 ВЕРАСЕНЬ 1991**

ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

ВЫДАВЕЦ ПАВАЛ ЖУК
РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА

АДРАС ДЛЯ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ:
220045, МЕНСК, П/С 17.
ФАКС (0172)34-22-95

**КОШТ 50 КАП.**

## НЕ ПРАЙШЛО Й ТРОХ ГАДОЎ...

### Мэты БНФ спраўдзіліся. Аднак, пакуль толькі фармальна

***У другой палове кастрычніка ў Менску плянуецца правесьці палітычную канфэрэнцыю БНФ «Адраджэньне». Сойм Народнага Фронту, які адбыўся ў суботу 7 верасьня, прыняў гэтае рашэньне, «зважаючы на радыкальныя зьмены ў палітычным становішчы й неабходнасьць удакладненьня стратэгіі БНФ».***

***На парадак дня канфэрэнцыі выносяцца два пытаньні: 1. Пра палітычнае становішча й дзейнасьць Фронту; 2. Аб праграмнай заяве БНФ.***

### Усё толькі пачынаецца

«Мэты, заяўленыя ў першай праграме й праграмнай заяве БНФ, фармальна спраўдзіліся, — адзначаецца ва ўхвале Сойму. — Але застаецца барацьба за фактычную незалежнасьць, за дэмакратыю, праца дзеля нацыянальнага адраджэньня беларускага народу. Паўстала новая палітычная й гістарычная сытуацыя, якая вымагае ўдакладненьня й разьвіцьця праграмных палажэньняў руху».

Сойм асобна падкрэсьліў, што «далейшы шлях Беларусі да свабоды павінен быць гэткі ж мірны, які ён быў дагэтуль».

Вынікі зьезду народных дэпутатаў СССР расцэньваюцца Соймам БНФ «як пачатак пераходнага пэрыяду — пэрыяду ліквідацыі ўнітарнай імпэрыі й набыцьця рэспублікамі сапраўднай незалежнасьці». Сойм пацьвердзіў ранейшую пазыцыю Фронту й ня бачыць неабходнасьці заключэньня новай саюзнай дамовы, захаваньня саюзнай арміі, якіх бы там ні было саюзных структураў. Дачыненьні паміж рэспублікамі былога саюзу павінны грунтавацца на міждзяржаўных пагадненьнях.

Сойм БНФ заявіў аб неабходнасьці прыняць тэрміновыя захады дзеля абароны інтарэсаў незалежнай Беларусі: умацаваньне межаў, стварэньне нацыянальных узброеных сілаў, вывад вайсковых фармаваньняў былога СССР з тэрыторыі Рэспублікі, энэргічныя крокі на міжнароднай арэне для міжнароднага прызнаньня нашай незалежнасьці. Падкрэсьлена таксама неабходнасьць увядзеньня нацыянальнай валюты, безь якой немагчыма праводзіць самастойную эканамічную палітыку.

### БНФ не дапусьціць цкаваньня былых камуністаў

Пра гэта адназначна заяўлена ў спэцыяльным «Звароце Сойму БНФ да былых камуністаў».

«БНФ «Адраджэньне» на сваіх зьездах і канфэрэнцыях некалькі разоў прымаў грунтоўныя заявы аб стаўленьні да камуністычнае партыі й да камуністаў, — гаворыцца ў Звароце. — У іх сьцьвярджалася, што Фронт адрозьнівае юрыдычную адказнасьць партыі як арганізацыі ды яе кіраўнікоў за свае злачынствы перад народам ад палітычнай і маральнай адказнасьці радавых камуністаў. Апошнія ўтрымлівалі сваімі ўзносамі антынародную партыйную верхавіну зь яе прывілеямі, таму яны маральна адказныя за становішча. Аднак звычайныя члены гэтае партыі ў вастатнім ня розьняцца ад іншых людзей, і пра юрыдычную адказнасьць радавых камуністаў пытаньне ня можа ставіцца. Беларускі Народны Фронт не дапусьціць якога б там ні было цкаваньня людзей за членства ў КПСС-КПБ».

БНФ заклікае былых камуністаў «далучыцца да стваральнай працы дзеля пабудовы нармальнага дэмакратычнага грамадзтва».



*Мал. С.Харэўскага*

## Першая рэакцыя Прыбалтыкі

У Прыбалтыйскіх дзяржавах уважліва сочаць за працэсамі, што адбываюцца зараз на Беларусі.

"Я зь вялікай радасьцю даведаўся пра волю Беларусі быць незалежнай краінай,-- гаворыцца ў тэлеграме Вітаўтаса Ланс-бэргіса, адрасаванай ВС БССР. -- Віншую Вас і выказваю надзею, што добрыя суседзкія адносіны паміж Беларусьсю і Летувой будуць мацавацца на грунье годнасьці і ўзаемапаразуменьня народаў і дзяржаваў".

Аднак гаварыць пра афіцыйнае прызнаньне незалежнай Беларусі пакуль зарана. Ці адбудзецца гэта-- найперш залежыць ад нас.

"Мы не сьпяшаемся зараз да фармальнага прызнаньня, -- сказаў у інтэрвію карэспандэнту СВАБОДЫ Старшыня Вярхоўнага Савету Эстонскай Рэспублікі Арнольд Руйтэль. -- Але калі яны выкажуць жаданьне быць прызнанымі ў сьвеце, тады іншая рэч. Аднак пакуль яны гэтага ня робяць" (стар.2).

## Польшча вітае акт незалежнасьці

«Прызнаючы правы ўсіх нацый на самавызначэньне, Сойм Польскае Рэспублікі радасна вітае абвяшчэньне незалежнасьці Беларусі 25 жніўня 1991 году.

Польшча, якая свабоду й незалежнасьць сваёй дзяржавы зрабіла найвышэйшаю каштоўнасьцю, цалкам разумее й ацэньвае значэньне гэтае гістарычнае пастановы беларускага парляманту. Яна выказвае імкненьне беларускай нацыі і зьяўляецца праявай законнага права Беларусі на свабоднае самавызначэньне ўнутраных і зьнешніх пазыцый.

Сойм Рэспублікі выказвае ўпэўненасьць, што незалежная Беларусь будзе йсьці шляхам дэмакратычных пераменаў, ствараючы ўмовы для добрых суседзкіх міждзяржаўных дачыненьняў і супрацоўніцтва паміж Польшчай і Беларусьсю ва ўсіх галінах».

З гэтай рэзалюцыяй польскага парляманту карэспандэнта СВАБОДЫ пазнаёміў Генэральны консул Польскае Рэспублікі ў Менску Тадэвуш Мысьлік. 15 верасьня ён завяршыў сваю місію на Беларусі. Яго наступніца — прафэсар Варшаўскага ўнівэрсытэту, доктар філялёгіі, беларусіст Эльжбета Смулкова, якая цудоўна валодае беларускаю мовай. Магчыма, у Менску будзе ўтворана польскае прадстаўніцтва больш высокага рангу.

«Я прыехаў у вадну краіну, а пакідаю зусім іншую. Вельмі ганаруся, што быў сьведкам сапраўднага пералому», — заявіў у інтэрвію СВАБОДЗЕ спадар Т.Мысьлік (стар.3).

## ЖАБРАЦТВА НАМ НЕ ПАГРАЖАЕ



**Віталь МАЛАШКА,**
**народны дэпутат БССР (Апазыцыя БНФ), сябра Цэнтральнае Рады БСДГ**

Рэфэрэндумы ў Швэйцарыі — рэч звычайная. Але я хацеў бы зьвярнуць увагу на адзін, які прайшоў некалькі гадоў таму. На рэфэрэндум было вынесенае пытаньне: ці згодныя грамадзяне Швэйцарскай канфэдэрацыі скараціць свой працоўны дзень на гадзіну? Цікава, што адказ насельніцтва быў адмоўны. Швэйцарцы выдатна разумелі, што ў іх няма ніякага іншага багацьця, акрамя працы сваіх грамадзянаў, і толькі гэтая праца можа забясьпечваць ім адзін з самых высокіх жыцьцёвых узроўняў у сьвеце.

Сёньня беларускую грамадзкасьць хвалюе пытаньне: ці зможа Беларусь існаваць незалежна ва ўмовах рыначных цэнаў на сыравіну? Якімі скарбамі валодае наша краіна?

Эканамічныя перавагі Беларусі складаюцца з двух аспэктаў: геапалітычнае становішча краіны ды наш навукова-эканамічны патэнцыял.

Беларусь знаходзіцца на скрыжаваньні паміж Эўропай ды Азіяй, Прыбалтыйскім і Чарнаморскім рэгіёнамі і ўжо сёньня толькі за транзыт грузаў на сваёй чыгунцы магла б мець да 1,5 млн. даляраў прыбытку ў дзень. Аналягічную карысьць маглі б прыносіць аўтамабільныя й водныя артэрыі, каналы сувязі. Калі стварыць адпаведную інфраструктуру, наладзіць прыстойны сэрвіс, дык прыбытак Беларусі ў гэтых сфэрах, на думку экспэртаў, мог бы ўзрасьці да 1 млрд. даляраў у год, што адпавядае здабычы й продажу 5 млн. тонаў нафты.

Безумоўна, каб атрымаць магчымасьць максымальна выкарыстоўваць сваё геаграфічнае становішча, неабходная самастойнасьць, стабільнасьць, замежныя інвэстыцыі й разумнае іх выкарыстаньне.

Але ж галоўным багацьцем нашага народу зьяўляецца праца. Толькі дзякуючы працавітасьці нашых людзей беларуская эканоміка яшчэ неяк трымаецца ва ўмовах сёньняшняга ўсеагульнага развалу.

Спад вытворчасьці ў нашай рэспубліцы адзін з самых нізкіх па СССР, што адлюстроўваецца і ў цэнах, і ў насычанасьці нашага ўнутранага рынку. У той час, як у шмат якіх рэгіёнах СССР уведзеныя хлебныя карткі, на Беларусі пакуль хапае асноўных прадуктаў харчаваньня, а цэны на рынку прамысловых тавараў прыкладна ў 1,2-1,4 раза ніжэйшыя, чым у сярэднім па Саюзе.

Гэта, аднак, не азначае, што нас чакае наперадзе бясхмарная будучыня. Рэзкі ўздым цэнаў на энэргарэсурсы, зразумела, выклікае рост цэнаў на прадукты й прамтавары. Але я абсалютна ўпэўнены ў вадным: калі беларусы захаваюць уласьцівую ім працавітасьць, а нашая эканоміка здолее інтэнсыўна адаптавацца да рынку — нам не пагражае ні голад, ні галеча.

У той самы час мяне зьдзіўляе цьверджаньне, што Расея зажыве па-царску, калі пачне гандляваць сваёй сыравінай па цэнах сусьветнага рынку. За кошт прыродных рэсурсаў можна крыху зьмякчыць крызыс, але ніяк не разбагацець. Пакуль расейскі сёлянін ці рабочы ня будзе выраблаць столькі ж прадукцыі, колькі вырабляе ягоны калега-беларус, ён не дагоніць яго па дабрабыту. І ніякая нафта тут не дапаможа.

**БЕСПРАЦОЎЕ:** З колаў, блізкіх да ўраду, стала вядома, што першы сакратар ЦК КПБ А. Малафееў папрасіў старшыню Дзяржкампрацы БССР Г.Бадзея падшукаць яму працу, зразумела, не абы-якую. Кажуць, Малафееў быў бы не супраць заняць пасаду кіраўніка справамі Міністэрства мясцовай прамысловасьці.

**ІНФЛЯЦЫЯ:** Прэзыдыюм ВС БССР прыняў рашэньне павялічыць сабе зарплату. Старшыням камісіяў паклалі па 1700 рублёў на месяц, намесьнікам -- 1600, сакратарам --1400.

**ВОЙСКА:** 13 верасьня група народных дэпутатаў БССР ад апазыцыі сустрэлася з вайскоўцамі ў гарнізоне Ўручча, што пад Менскам. У бліжэйшы час дэпутаты зьбіраюцца аб'ехаць асноўныя гарнізоны Беларускай акругі, каб займець падтрымку сярод вайскоўцаў у справе стварэньня нацыянальнага войска.

**АДРАДЖЭНЬНЕ:** Часопіс "Бярозка" з 11-га нумара г.г. пераходзіць на граматыку Браніслава Тарашкевіча. Цяпер зь "ь" будзе выходзіць ня толькі апазыцыйны друк.

**ДЭФІЦЫТ:** У менскіх крамах зьявіліся цыгарэты "Астра" "некондиционные" коштам 13 руб. 13 кап. за кілаграм. На адзін талён — 200 г.

**МАНЭЎРЫ:** З інфармаваных крыніцаў стала вядома, што рыскі АМОН, перад тым як знайшоў прытулак у Цюмені, спрабаваў перабрацца на Беларусь. Аднак МУС БССР не рызыкнула злаваць беларускую грамадзкасьць і адмовілася ад "нашых", узяўшы на працу толькі некалькі "амонаўцаў" з атраду.

# ЯК У ЭСТОНІІ РАЗУМЕЮЦЬ НАШАЕ ІМКНЕНЬНЕ ДА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

**СПЭЦЫЯЛЬНА ДЛЯ «СВАБОДЫ» НА ПЫТАНЬНІ НАШАГА КАРЭСПАНДЭНТА АДКАЗВАЕ СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТУ ЭСТОНСКАЙ РЭСПУБЛІКІ АРНОЛЬД РУЙТЭЛЬ**

Нарэшце й Масква, наўздагон сусьветнай супольнасьці вымушаная была прызнаць факт дзяржаўнай незалежнасьці Прыбалтыйскіх краінаў. На гэта прыбалтам спатрэбілася тры гады.

Хоць большыня вядучых краінаў сьвету ніколі не падзяляла гвалтоўнага далучэньня Прыбалтыйскіх краінаў да Савецкага Саюзу ў 1940 годзе і ўважала іх за акупаваныя, тым ня менш Эстонія, Латвія ды Летува не маглі адразу разьлічваць на моцную падтрымку заходніх краінаў у справе аднаўленьня іхняе незалежнасьці.

У сьвеце, пэўна, разумелі патрэбы прыбалтыйскіх народаў, і гэта прыносіла ім вялікую карысьць. Але афіцыйная пазыцыя зьмянілася толькі цяпер, пасьля праціглага падрыхтоўчага працэсу і асабліва пасьля драматычнае спробы перавароту ў Савецкім Саюзе.

Новым для сусьветнае супольнасьці сталася тое, што і Украіна і Беларусь пачалі шукаць шляхі да ўсталяваньня сваёй дзяржаўнасьці. Гэта пахісьне Савецкую імпэрыю ў большай ступені, чымся вызваленьне Прыбалтыйскіх дзяржаваў.

Той факт, што ў Савецкай імпэрыі пад уплывам камуністычных прапагандыстаў магчыма адвольна карыстацца ўсялякімі паняцьцямі й выказваньнямі, пацьвярджае й гульня з паняцьцямі «сувэрэнітэт», «самастойнасьць», «незалежнасьць», а таксама спробы імпэрыі давесьці, што Саюзу будзе нададзены рашуча іншы выгляд у якіхсьці рамках «абноўленай фэдэрацыі».

***27 жніўня ў Таліне на Тоомпэа (Вышгарад) у будынку парляманту і ўраду Эстоніі на пытаньні карэспандэнта газэты «СВАБОДА» адказаў старшыня Вярхоўнага Савету Эстонскай Рэспублікі Арнольд РУЙТЭЛЬ.***

**Кар.: — Як у Эстонскай Рэспубліцы ставяцца да імкненьня Беларусі дамагчыся самастойнасьці?**

**А.Р.:** — Пра становішча на Беларусі да нас прыходзяць розныя зьвесткі. Праўда, агульная карціна пакуль няпоўная. Я хацеў бы зьвярнуцца да тых дэмакратычных сілаў Беларусі, якія разумеюць дэмакратыю таксама, як і мы, у агульначалавечай трактоўцы. Намаганьні гэтых сілаў я толькі падтрымліваю й вітаю адпаведныя працэсы, якія адбываюцца на Беларусі.

Гадоў 10—15 таму я ўпершыню сустрэўся з дэмакратамі зь Беларусі. Тады яшчэ нельга было нічога адкрыта гаварыць. Мы зь імі вельмі сур'ёзна абмяркоўвалі тыя нацыянальныя працэсы, якія адбываліся тады на Беларусі, і я маю надзею, што беларускі народ здолее аднавіць сваю сапраўдную культуру й эканоміку. Зьдзяйсьненьне гэтых ідэяў можна толькі вітаць. Я спадзяюся, што беларускі дэмакратычны рух імкнецца йсьці менавіта гэтым шляхам.

**Кар.: — Якое стаўленьне Эстоніі да ўхваленьня парлямантамі славянскіх дзяржаваў Украіны й Беларусі дэкляраціі аб поўным дзяржаўным сувэрэнітэце?**

**А.Р.:** — Рэч у тым, што на падставе актаў абвешчаньня самастойнасьці пачнецца працэс заключэньня новых дагавораў аб супрацоўніцтве, і мы не выключаем што створыцца новы канфэдэратыўны саюз. Таму цяпер мы, галоўным чынам, чакаем, калі канчаткова вызначыцца іхняя пазыцыя: альбо яны будуць прызнаныя ў сьвеце як незалежныя дзяржавы, альбо далучацца ў якасьці дзяржаўных суб'ектаў да канфэдэрацыі.

Важна, каб яны мелі магчымасьць дзеяць так, як яны самі мяркуюць слушным, каб было як мага меней непаразуменьняў, каб яны маглі прыняць рашэньне безь ніякага ціску.

Мы ўвогуле зацікаўлены ў тым, каб на ўсходзе ад нас сытуацыя была стабільная, паколькі йнакш становішча і ў нас будзе складаней. Бо ж там знаходзіцца наш асноўны рынак і крыніцы сыравіны. У нас жыве шмат людзей адтуль, таму супярэчнасьці адтуль пераходзяць і да нас. Так, напрыклад, супярэчнасьці паміж Арменіяй і Азэрбайджанам маюць свой адбітак і ў нас. Наша пазыцыя палягае ў тым, і гэта пазыцыя Эстоніі, што нам неабходная разрадка й стабільнасьць ва ўсіх рэгіёнах.

**Кар : — Цяпер Прыбалтыйскія дзяржавы, а таксама Славенія й Харватыя атрымліваюць міжнароднае прызнаньне. Ці можа быць размова пра адваротнае, напрыклад пра прызнаньне Эстоніяй незалежнасьці Беларусі?**

**А.Р.:** — Мы не сьпяшаемся зараз да фармальнага прызнаньня. Але калі яны выкажуць рашучае жаданьне быць прызнанымі ў сьвеце, тады іншая рэч. Аднак пакуль яны гэтага не робяць.

Такім чынам мы мяркуем, што значэньне й ролю падобнага рашэньня яны павінны вызначыць самі. Пра тое, якой рэакцыі яны чакаюць ад іншых, мы даведаемся пазьней ад іх саміх.

***У Таліне ў гутарцы карэспандэнта газэты «СВАБОДА» з прадстаўніком Інфармацыйнай службы Старшыні Вярхоўнага Савету Эстонскай Рэспублікі Раулем МЯЛЬКАМ было ў першую чаргу закранутае пытаньне пра абмен інфармацыяй паміж былымі саюзнымі рэспублікамі. Р.Мяльк зазначыў наступнае:***

— Цяпер мы атрымліваем дакументы з Украіны і прыступаем да іх аналізу. Але прапрацаваць іх яшчэ не пасьпелі з прычыны той лавіны інфармацыі, якая сыкаецца цяпер з усяго сьвету. Зьвестак зь Беларусі, на жаль, мала, і яны супярэчлівыя.

***Некаторыя агляддальнікі тлумачаць рашэньне Беларусі аднавіць дзяржаўную самастойнасьць тым, што камуністычная намэнклятура далучылася да дэмакратычных сілаў на глебе нацыянальных імкненьняў для таго, каб падбухторваць у народзе страх да занадта актыўнай палітыкі Ельцына з усходу ды адначасна самім рэабілітавацца. Рауль Мяльк згадзіўся даць камэнтар гэтай думцы.***

— Не хачу рабіць ніякіх здагадак, але некаторыя зьвесткі паказваюць, што камуністы пад пакрыцьцём нацыянальных ідэяў шукаюць апошнюю магчымасьць застацца пры ўладзе. Як мы памятаем, у газэце «Литературная Россия» сышліся ў мерканьнях кансэрватыўная партакратыя й зацятыя расейскія нацыяналісты дзеля таго, каб аб'яднацца супраць Ельцына. Гэта быў апошні прытулак камуністаў, дзе яны маглі паказаць сябе барацьбітамі за нацыянальныя інтарэсы. Таму нельга выключаць такую магчымасьць, хоць дакладных зьвестак пра гэта я ня маю.

Але мы ведаем склад Вярхоўнага Савету Беларусі. Гэта робіць нас абачлівымі й асьцярожнымі і вымушае чакаць зьменаў. Паводле нашых дадзеных, там адбываецца вялікая барацьба.

Слабасьць нашай маладой дзяржавы палягае ў тым, што ў нас яшчэ не працуе на патрэбным узроўні інфармацыйная сыстэма. А таму па некаторых пытаньнях мы ня можам так хутка адрэагаваць, як хацелася б.

**Маргус ВЯЛЬЯ**
Талін

# Сойм, канцлер ды іншыя

Нас чакае бурлівы час. На нашых вачох на нашай зямлі будзе адраджацца цэлая эўрапэйская дзяржава. Будзе ўзьнікаць шмат наватвораў, новых дзяржаўных ды палітычных структураў, а ў моўным пляне й нэалягізмаў.

І неабходнасьць у такой наватворчасьці сапраўды йснуе — перапынак нармальнага эвалюцыйнага шляху выкрасьліў з нашай сучаснай гісторыі шмат якіх атрыбутаў цывілізаваных нацыяў. І тым больш беларусам патрэбны традыцыяналізм у сэнсе прыўнясеньня ў сёньняшні дзень набыткаў уласнай гісторыі, але пераасэнсаваных у вадпаведнасьці з рэаліямі канца 20 ст. Тым самым мы дасягаем двух станоўчых момантаў:

1) будуем з улікам пэўных унівэрсаліяў уласны дом — функцыянальны, са зручнымі выхадамі ў эўрапэйскую супольнасьць, але й свой, адметны, непаўторны — беларускі. Ствараючы, мы ня будзем губляць грунт пад нагамі.

2) актыўна ўключыўшы ў свой ужытак, нават на знакавым узроўні, традыцыі Вялікага княства, мы даводзім усім, і найперш сабе, права ўласнасьці на гэтую дзяржаву й на спадчыну нашых продкаў. Мы пазбаўляемся ад комплексу непаўнавартасьці.

Канкрэтна гэта можа закранаць розныя сфэры. Найбліжэйшая — праблема дзяржаўнай сымболікі. Са сьцягам пытаньні зьнятыя. Але з гербам спрэчкі яшчэ будуць. Ужо гучаў тэзіс супраць Пагоні — маўляў, яна ўжо герб Летувіскай Рэспублікі. Нягледзячы на тое, што падобных па сюжэту гербаў існуе на сьвеце шмат, нешта ў гэтым пярэчаньні ёсьць (як на адлегласьці хутка й без памылкі адрозьніць сымболі дзвюх суседніх дзяржаваў?), бо нават канкрэтызацыя постаці вершніка дый нюансы рыштунку могуць не адразу быць заўважаныя. Таму трэба ўзгадаць, што наша Пагоня на сапраўды дзяржаўных паперах, Статутах дый кнігах Трыбуналу была ня проста сама па сабе, але пад каронай.



Карона ўжо не павінна асацыявацца зь ідэяй манархіі — гэта прыкмета традыцыяналізму й пераемнасьці. Багата якія сёньняшнія рэспубліканскія рэжымы маюць на сваіх гербах карону — старажытная эўрапэйская Рэспубліка Сан-Марына, нэўтральная Аўстрыйская Рэспубліка... Вярнуліся кароны на галовы польскага арла й чэскага льва, галоўны элемэнт карона й на гербе Вугоршчыны.

Карона як знак сюзэрэна, улады (на сёньняшняй мове — сувэрэнітэту) будзе сымбалем сувэрэннасьці Беларусі. Скарыстоўвалася карона над Пагоняй у розных варыяцыях, вельмі жорсткай рэглямэнтацыі не йснавала. Але ёсьць сэнс прыняць выяву герба з тытульнага аркуша знакамітага Статута 1588 г. — Пагоня закампанаваная ў кола з лаўровага вянку, а наверсе карона Вялікага княства, адметная сваёй формай ад іншых каронаў Эўропы. Каляровую раскладку варта зрабіць традыцыйнай і для Пагоні, і для нашага сьцяга — срэбная (белага колеру у геральдыцы няма) Пагоня на чырвоным тле. Прынамсі, ня будзе такой эклектыкі, калі Пагоню зьмяшчаюць у фактычна бэсэсэраўскі герб з карнавымі культурамі. Ну а летувісы няхай карыстаюцца Пагоняй без кароны.

Пытаньні традыцыяналізму ў сучаснасьці датычаць і праблемы найвышэйшых ворганаў улады Беларусі. Асноўныя спрэчкі разгарэліся ўжо і ў парляманце вакол дылемы: парлямэнтарызм альбо прэзыдэнцтва?! калі маюць рацыю прыхільнікі аўтарытарнай выканаўчай улады, дык рабіць гэта за кошт моцнага прэзыдэнцтва немэтазгодна — багата чаго для гэтага на Беларусі не йснуе. Але выйсьце можна знайсьці.

У 15 ст. у Вялікім княстве была ўведзеная пасада канцлера. Ён дакладаў манарху пра дзяржаўныя справы, радагаваў Статуты, вёў перамовы з замежнымі пасламі, зацьвярджаў афіцыйныя паперы пячаткай дый уласным подпісам. Мог і адмовіцца падпісваць (г.зн. уводзіць іх у дзеяньне), калі дакумант супярэчыў законам. Канцлерамі былі такія слынныя людзі Беларусі як Астафі Валовіч і Леў Сапега, Мікалай Радзівіл і Яўхім Храптовіч...

У сучасных умовах канцлер Беларусі, узначальваючы ўрад, не карыстаўся б поўным наборам прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў, быў бы адказны перад парлямантам, але рэальна ўплываў бы на палітыку, маючы магчымасьць адкладальнага вэта. Такім чынам гэта была б не прэзыдэнцкая ўлада, але ўлада з большымі паўнамоцтвамі прэм'ера пры вяршэнстве заканадаўчай улады. У поўным сэнсе такую сыстэму арганізацыі кіраваньня можна называць развіцьцём парлямэнтарызму.

Кіруючыся традыцыямі, сам парлямант варта акрэсьліць старасьвецкім беларускім словам Сойм, а «сьпікера» — Маршалкам Сойму. Усё гэта адпавядае найвышэйшым ворганам Вялікага княства. Як і тэрмін падскарбі для міністра фінансаў.

Такія радыкальныя крокі ў будаўніцтве дзяржавы паспрыяюць дэмантажу посткамуністычнай сыстэмы. А грунтаваньне на традыцыях зробіць уваход у будучыню паспяховым.

**Алег ДЗЯРНОВІЧ**, гісторык

## НАРМАЛЬНАЯ ЗЬЯВА

***У Гарадзенскім унівэрсытэце вырашылі зьліквідаваць дзьве катэдры гэтак званых грамадзкіх навук.***

Унівэрсытэцкае начальства нарэшце зразумела, што "рэфармаваньне" катэдраў шляхам зьмены шыльдаў, як гэта рабілася раней, нічога не дае — колькі ні кажы "халва", у роце салодка ня стане, псэўданавука заставалася тым, чым і была.

Дактары ды кандыдаты псэўданавук, якія прысьвяцілі свае дысэртацыі ўслаўленьню марксізму-ленінізму, хваляюцца, што зараз іх могуць пазбавіць вучоных ступеняў.

**А.К.**

## Заўчасны скон

***У Горадне прыпынена выданьне правабальшавіцкай газэты «24 часа».***

Шкада. Яна й так ледзь дыхала, бо мела аж 18 падпісчыкаў і двухтысячны зь лішкам наклад, сарамліва павялічаны ў выхадных дадзеных да чатырох тысячаў. Але й гэтая мізэрная колькасьць ніколі не раскуплялася.

А пачатак быў шумны. Студэнты былі нанятыя распаўсюджваць газэту на чыгуначных станцыях і аўтобусных прыпынках. Паспрабавалі прадаваць каля заводзкіх прахадных, але марна. На «ўра» «24 часа» быў сустрэты толькі вэтэранамі. Наклад катастрафічна падаў: 15 тысячаў, 10, 8, 2.300...

Новы ворган не прыжыў і году. Адной з асноўных яго рубрык была: «Как живёшь, первичка?»

## Імпартовы друк

***У гарадзенскія шапікі трапіў шосты нумар газэты Саюзу палякаў на Беларусі «Głos znad Niemna». Цікаўныя могуць пазнаёміцца — апроч іншага — са складам рэдакцыі. І вось тут чытача чакае, як гаворыцца спаміж палякаў, неспадзянка.***

Аказваецца, у Горадне знаходзіцца толькі рэдактар, усе астатнія супрацоўнікі жывуць за мяжой, у Беластоку. Праўда, сябры рэдкалегіі жывуць на Беларусі. Але рэдкалегія, як вядома, не займаецца выпускам газэтнага нумару.

Таму ня дзіва, што «Głos» — геаграфічна й тэматычна цалкам нагадвае беластоцкі «Kurjer Podlaski», дзе й быў падрыхтаваны да друку. У Горадне газэту толькі адбіваюць з гатовых формаў.

Зрэшты, знаёмы прыём. За польскім часам і брашуры і газэты КПЗБ з грыфам «Друк. Вільня», друкаваліся ў васноўным у бальшавіцкім Менску.

Узьнікае пытаньне: што ж гэта за Саюз палякаў, які ня здольны ўласнымі сіламі выпускаць газэту? Беластоцкая «Ніва», як вядома, не прывозіцца ў Польшчу зь Менску. Нават у далёкім Казахстане беларускія вайскоўцы выдаюць беларускую газэту «Рокаш» сваімі сіламі.

## Ход канём

***Абкам і гаркам зачыненыя. Усе падаліся ў пэдагогіку, — паведамілі СВАБОДЗЕ з Горадна.***

Аказваецца, каб партфункцыянэры ня сталі "бамжамі", іх у вабдымкі прынялі ў школах. Перад імі расчыніліся дзьверы нават 32-й школы — самай новай у Горадне, якую спачатку меркавалася зрабіць беларускай. Вось ужо яны навучаць дзятву!

Высьветлілася таксама, што гэткі ж ход канём зрабіла намэнклятура ў Наваградку ды іншых райцэнтрах, адкуль удалося атрымаць інфармацыю.

А можа яно й сапраўды было лепш, калі яны сядзелі ў сваіх райкамах? Менш было шкоды.

**А.КРАЎЗЕ**

# Figaro тут, Figaro там

## «Беларусы — выдумка савецкай улады»

Пад такім назовам 28 жніўня ў французскай газэце «Le Figaro» зьявілася нататка Элен Карэр д'Анкос з наступным зьместам:

**«Беларусь з 20 (?) млн. насельніцтва была таксама захопленая вялікай хваляй незалежніцкіх памкненьняў. Аднак, у вадрозьненьне ад Украіны, Беларусь ня мае выразных нацыянальных асаблівасьцяў. Беларуская нацыя ня мае гісторыі. Беларуская мова была сфабрыкаваная ў 20-я гады савецкімі ўладамі на падставе мяйсцовых гаворак. І, у выніку іроніі гістарычнага лёсу, калі савецкая ўлада прыдумала гэтую штучную Беларусь, каб аслабіць сапраўдныя нацыі, зраўняўшы іх у становішчы з нацыямі штучнымі, яна, урэшце, здолела пераканаць беларусаў, што яны йснуюць як нацыя. У 1991 г. Беларусь хоча быць незалежнаю й нават выстаўляе да сваіх суседзяў тэрытарыяльныя прэтэнзіі, вакол якіх узьнікаюць гарачыя спрэчкі й нават можа загаварыць зброя...»**

Зброя ўжо «гаворыць». Калі вам у твар кажуць, што вас няма — хіба вас не забіваюць гэтымі словамі? Беларусь гэтымі словамі забіваюць ужо 200 гадоў — з тых часоў, калі нашу зямлю й наш народ сілком далучылі да Расейскай імпэрыі, яшчэ задоўга да бальшавікоў і савецкай улады, якая нібыта «прыдумала Беларусь» — нам цьвердзяць, што нас няма. Праўда, раней так казалі расейцы ды палякі, а сёньня нешта затурбаваліся французы. Вынікае іхняя турбота зь дзьвюх прычынаў: першая — няведаньне прадмету гаворкі, другая — геапалітычныя інтарэсы. Пачнем зь першага.

## Кароткі курс беларусазнаўства

Беларуская мова — найбольш чыстая з усіх славянскіх моваў, яна ўзьнікла даўно й выдатна распрацаваная. Гэтыя словы ў 1842 годзе сказаў у сваёй лекцыі польскі паэт Адам Міцкевіч. Лекцыя чыталася ў Парыжы, і я ўпэўнены, што пра гэта таксама нічога ня ведае Элен з Figaro. Яна ня ведае, што беларуская мова была афіцыйнай дзяржаўнай моваю Вялікага княства Літоўскага — буйной сярэднявечнай дзяржавы, ядром якой была Беларусь. Гэта была магутная дзяржава, якой даводзілася шмат ваяваць. Беларусь тады называлі Краінай замкаў... Наваградак, Ліда, Мір, Нясьвіж, Гальшаны, Горадзен, Любча... Дзесяткі магутных мураваных замкаў... У 1517 годзе Францішак Скарына выдаў першую друкаваную кнігу па-беларуску. Роўна за 400 гадоў да савецкае ўлады, якая «прыдумала Беларусь». І калі я скажу, што спрадвеку Беларусь была адной з самых разьвітых і адукаваных краінаў Эўропы, Элен з Figaro, напэўна, не паверыць мне, але я скажу праўду. Я параю Элен прачытаць кнігу Міколы Ермаловіча «Старажытная Беларусь» і даведацца пра магутныя княствы й зямлю, на якую не ступіла татарскае нашэсьце. А каб зразумець нашыя «выразныя нацыянальныя асаблівасьці» я параю Элен... перачытаць «выдатныя вершы французскага паэта Апалінэра, беларуса, унука Апалінарыя Кастравіцкага, паўстанца 1863 году, які разам з Кастусём Каліноўскім змагаўся за незалежнасьць Беларусі. За 65 гадоў да савецкае ўлады, якая «прыдумала Беларусь». Дарэчы, сябра Каліноўскага Валеры Ўрублеўскі стаў пасьля генэралам Парыжскай камуны. Ужо гэтае імя Элен чула абавязкова. Вось толькі ня ведала, што Ўрублеўскі — беларускі паўстанец.

Беларусаў ніколі не пераконвалі, што яны нацыя. Якраз наадварот. Іх увесь час пераконваюць, што яны ня нацыя. А тых, каго нельга пераканаць, заўсёды, як правіла, забівалі...

Іх пераконвалі байкамі пра Кіеўскую Русь і трыадзіны рускі народ. Ім забаранялі ведаць сваю гісторыю й сваіх герояў — Рагнеду, Усяслава Чарадзея, Вітаўта, К.Астрожскага, Л.Сапегу ды шмат іншых, а навязвалі герояў чужых — Івана Грознага, Пятра Першага, Суворава, якія мэтадычна палілі нашыя гарады й забівалі нашых людзей. У 1842 годзе ўказам расейскага цара быў забаронены сам назоў «Беларусь». За 75 гадоў да савецкай улады, якая «прыдумала Беларусь». Тады ж было забаронена друкаваць што-кольвек па-беларуску.

Савецкая ўлада не стварыла беларускую нацыю, а зьнішчыла Беларускую Народную Рэспубліку, беларускую навуку й культуру, замяніўшы іх савецкай рэспублікай, савецкай культурай і савецкай навукай. І ўсё гэта савецкае, зьлёгку прыпудранае псэўдабеларушчынай, заўсёды служыла толькі дэнацыяналізацыі й русыфікацыі беларусаў.

## Геапалітыка

А 27 жніўня ў перадавым артыкуле французскай газэты «Le Monde» зьявіўся наступны пасаж:

**«Прызнаючы, што для Францыі настаў час падправіць свой гадзіньнік, Сп.Ралан Дзюма мусіў у нядзелю вечарам прызнаць пэрспэктыву хуткае незалежнасьці балтыйскіх краін. Аднак ён дадаў, што патрабаваньні іншых савецкіх рэспублік, якія абвесьцілі ці пацьвердзілі іхнюю волю да незалежнасьці пасьля няўдалага путчу, выглядаюць праблематычнымі. Але ж як, напрыклад, можна заўтра адмовіць у незалежнасьці Украіне, калі гэтая рэспубліка з волі Сталіна і праз недагляд Захаду ўжо мае мейсца сярод Аб'яднаных нацыяў? Тое ж самае, дарэчы, і зь Беларусьсю, нацыянальныя асаблівасьці якой ёсьць больш чым сумніцельнымі...»**

Тут недасьведчанасьць французаў выглядае яшчэ больш агрэсіўна. Але тут праглядаюць крыху іншыя матывы паводзінаў. Французы ставяць свой «гадзіньнік» на Гарбачова й Ельцына. І яшчэ, магчыма, на лідараў балтыйскіх дзяржаваў. А на Беларусі яны не разглядзелі «нацыянальных асаблівасьцяў». Тлумачэньне наіўнае. Францыя шукае сабе геапалітычных партнэраў і, паставіўшы на Гарбачова й Ельцына, будзе цяпер ва ўгоду ім абплёўваць і Беларусь, і Ўкраіну гэтаксама, як яшчэ поўгады таму плявала на Летуву. А можа, гэта «нацыянальная асаблівасьць» французаў, якую трапна перадаў Бомаршэ ў сваёй «Жаніцьбе Фігара»? Фігара тут, Фігара там... І калі заўтра панам французам не спадабаецца Ельцын, «Le Figaro» і «Le Monde» пачнуць наперабой расказваць пра беларускага гетмана Кастуся Астрожскага, які ў пачатку 16 ст. пад Воршай славута перамог маскалёў...

**Сяргей ПАЎЛОЎСКІ**

# “Я пакідаю зусім іншую Беларусь”

## Генэральны консул Польскае Рэспублікі ў Менску Тадэвуш Мысьлік на завяршэньне свае місіі ў нашай краіне даў інтэрвію СВАБОДЗЕ.

**КАРЭСПАНДЭНТ: — Спадар Мысьлік, раней Вас рэдка бачылі на паседжаньнях Вярхоўнага Савету Беларусі, але на апошняй сэсіі дэпутаты заўважылі Вашу прысутнасьць. Што Вас так зацікавіла?**

**Т.МЫСЬЛІК:** — Абавязак любога Генэральнага консула — інфармаваць сваю краіну пра важнейшыя падзеі ў дзяржаве яго місіі. І калі я не наведваў звычайныя чарговыя паседжаньні сэсіяў, я даведваўся пра іх рашэньні праз тэлевізію й прэсу. Прысутнасьць жа на апошняй сэсіі — доказ таму, што мы цудоўна разумеем сытуацыю — гэта быў момант своеасаблівага пералому, пераходу да сапраўднае дэмакратыі. Мы шчыра зычым гэтага Беларусі. Як і любога чалавека, мяне радуе, калі справа вядзе да законнасьці й дэмакратыі. Вось чаму я пасьпяшаўся наведаць сэсію, хоць не на цэлы дзень, бо мае абавязкі не пакідаюць мне шмат часу, але дастаткова, каб прадэманстраваць маю прысутнасьць.

**КАР.: — У чым жа Вы заўважылі перелом?**

**Т.М.**: — Атмасфэра ў парляманце была зусім іншая. Мабыць, гэта было вынікам правалу путчу. Людзі адчувалі сябе намнога больш самастойнымі. І тым ня менш гэта былі тыя самыя, добра знаёмыя дэпутаты.

**КАР.: — Як успрынялі ў Польшчы той факт, што Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі быў нададзены канстытуцыйны статус?**

**Т.М.**: — У нас такі парадак. Калі пытаньне трапляе на парадак дня Сойму й Сэнату, то гэта азначае, што яно датычыць надзвычай важнай падзеі. Гэта не пусты жэст. Абедзьве палаты польскага парляманту прынялі рэзалюцыю, якая вітае гістарычнае рашэньне Вярхоўнага Савету Беларусі.

Аднак наш парлямант ужо ня першы раз так рэагуе. Гэтак жа было, калі Беларусь прыняла Дэклярацыю аб сувэрэнітэце. Аднак тады гэта было больш пажаданьне, чымсьці прававы акт. Цяпер жа ёсьць якасная перамена, мы ў гэтым упэўненыя.

Зараз у Менску вядуцца перамовы групы экспэртаў з Польшчы, якую ўзначальвае дырэктар консульскага дэпартаманту спадар Чакутовіч. Яны працуюць над супольнай польска-беларускай Дэклярацыяй. Калі гэтыя перамовы будуць пасьпяховыя, будзем чакаць у Польшчы міністра замежных справаў Беларусі для падпісаньня гэтага дакументу ў Варшаве. Я думаю, што гэта будзе датычыць і статусу Беларусі, які яна сабе выбрала.

**КАР.: — Як Вы лічыце, ці могуць апошнія падзеі на Беларусі актывізаваць нашых братоў па крыві на Беласточчыне?**

**Т.М.:** — Я выказваюся як грамадзянін і як прадстаўнік польскага ўраду. Я вельмі хачу, каб беларусы, якія зьяўляюцца польскімі грамадзянамі, мелі поўныя грамадзянскія правы, і вельмі хацеў бы, каб усё адпавядала Хэльсінкскаму працэсу. Каб правы беларусаў у Польшчы яму адпавядалі гэтак сама, як і правы палякаў, якія жывуць на Беларусі.

**КАР.: — Тое, што Беларусь абвясьціла пра сваю незалежнасьць, відаць, адаб'ецца й на эканамічным супрацоўніцтве з Польшчаю?**

**Т.М.:** — Так. Я магу на гэта ўпэўнена адказаць. Гэта больш, чым мая надзея. Нарэшце будуць ліквідаваныя тыя перашкоды, якія пабудаваў «цэнтар». Гэтыя перашкоды я назіраў у галіне гандлёвага абмену, у галіне плацёжных пытаньняў. Тут «цэнтар» зарэзэрваваў сабе вельмі вялікую кампэтэнцыю. Гэта ўсё тармазіла, рабіла немагчымым разьвіцьцё нармальнага тавараабмену й іншых эканамічных сувязяў паміж нашымі дзяржавамі. Спадзяюся, што зараз можна будзе падпісаць праект гандлёвага пагадненьня, які ўжо выпрацаваны Польшчай і Беларусьсю і які (менавіта з-за плацёжных цяжкасьцяў) да гэтай пары ня быў падпісаны.

Я ўпэўнены, што палякі будуць выкарыстоўваць свае кантакты, каб праз Беларусь пранікаць у вадзіную эканамічную прастору на Ўсходзе, а беларусы будуць выкарыстоўваць Польшчу, каб выходзіць на заходнеэўрапэйскі рынак. Тут мы можам стацца мастом паміж Усходняй, Сярэдняй і Заходняй Эўропай. Тым больш, што ў нас няма моўнага бар'еру. Паляк добра разумее беларуса.

**КАР.: — Завяршаецца Вашая місія ў нашай краіне. Што Вы возьмеце з сабою дадому?**

**Т.М.**: — Мне вельмі прыемна было працаваць на Беларусі. Я прыехаў у вадну краіну, а пакідаю зусім іншую. Вельмі ганаруся, што быў сьведкам сапраўднага пералому.

Акрамя таго, я знайшоў тут сапраўдных сяброў. Мне здаецца, што ў Польшчы недастаткова добра знаёмыя з вашай краінай. Мы калісьці жылі разам і захавалі добрыя ўражаньні яшчэ з часоў першай Рэчы Паспалітай, Вялікага княства Літоўскага й тагачаснай Польшчы. Аднак пазьней нашыя шляхі неяк разыйшліся. Нам варта прыгадаць тыя добрыя дачыненьні.

# Хуткія рэформы — супраць перавароту

***Дзейнасьць КПБ прыпыненая. Будзем лічыць, што назаўсёды. Намэнклятура здае партбілеты. Ці азначае гэта, што шлях да рэформы эканомікі адкрыты, а спробы вярнуць грамадзтва да сталінскага «парадку» не паўторацца? Ня варта сьпяшацца з адказам.***

Беларусь не дарма лічыцца «запаведнікам камунізму». Цяперашні ўрад В.Кебіча на дзьве трэці складаецца з былых партыйных функцыянэраў. У гэтыя дні іх тут, відаць, пабольшае. Сагнаныя зь мяккіх крэслаў — цэкоўскіх, абкамаўскіх ды райкамаўскіх — яны ня стануць да варштата й ня сядуць за баранку таксоўкі.

Ці будуць нядаўнія партработнікі зацікаўленыя ў рэформах? Ці будзе спрыяць пераходу да свабоднай эканомікі дырэктарат, які вокамгненна стаў беспартыйным? Думаю, толькі нямногія зь іх. Рынкавая эканоміка зьвядзе да мінімуму колькасьць столаначальнікаў. Монстраў беларускага машынабудаваньня: МАЗ, БелАЗ, МТЗ ды іншых чакаюць вялікія праблемы ва ўмовах рынку. Гэта палохае дырэктараў старога гарту, і яны, каб застацца каля стырна, будуць хутчэй за ўсё імкнуцца захаваць камандавую эканоміку ці, у скрайнім выпадку, пакінуць у дзяржсэктары, а значыць на датацыях, 60—70 працэнтаў прадпрыемстваў. Але ж такая эканоміка, як ведама, можа працаваць толькі ва ўмовах камандава-адміністрацыйнай сыстэмы. Таму й яе спатрэбіцца адрадзіць.

Дык што, наступны пераварот адбудзецца на Беларусі? Але хто яго арганізуе, калі КПБ развальваецца на вачох?

У гэтай сувязі на памяць прыходзіць імпартовы фільм пра мафію. Стары й зьнямоглы галава злачыннай імпэрыі — дзяржавы ў дзяржаве — трымае пад кантролем цэлыя галіны бізнэсу, тысячы здаровых і моцных людзей.

За гады камуністычнага панаваньня бальшавіцкая мафія пранізала ўсе пласты грамадзтва, усе сфэры матэр'яльнай вытворчасьці. Можа быць цяпер, калі вы чытаеце гэтыя радкі, нехта пацее над статутам і праграмай новай партыі «чести и совести». Дзе гарантыя, што сёньня беспартыйныя дырэктары ды чыноўнікі не пабягуць у гэтую партыю па першым сьвістку намэнклятурнага пахана, каб выканаць любы загад?

Сёньня, калі газэты стракацяць паведамленьнямі пра тых, хто «пасьпяшаўся» засьведчыць сваю прыхільнасьць да хунты, многія лічаць, што выйсьце ў тым, каб «усіх іх перасадзіць». Зразумела, партнамэнклятура мусіць панесьці належнае пакараньне, а КПБ павінна быць забароненая як злачынная арганізацыя. Але ня варта засяроджвацца толькі на пошуку вінаватых, на выкараненьні мафіі «да апошняга чалавека».

Галоўная перашкода на шляху рэстаўрацыі бальшавіцкай сыстэмы — хуткія рэформы па стварэньні свабоднае эканомікі.

Неабходна тэрмінова распачаць прыватызацыю дзяржмаёмасьці, прыняўшы радыкальныя законы. Стварыць рынкі сродкаў вытворчасьці, працоўнае сілы, каштоўных папераў і г.д. Увесьці прыватную ўласнасьць на зямлю, прыбраўшы бюракратычныя перашкоды на шляху стварэньня фармэрскіх гаспадарак.

Адраджэньне лібэральных каштоўнасьцяў: свабоды, законапаслушэнства, абароны прыватнае ўласнасьці, павагі да прадпрыймальніка — вось дзе гарант вяртаньня нашага грамадзтва да здаровага сэнсу. Фармаваньне сярэдняе клясы, далучэньне да прадпрыймальніцтва як мага большае колькасьці людзей павінна забясьпечыць, акрамя іншага, занятасьць тым, хто страціць працу ў выніку закрыцьця стратных дзяржпрадпрыемстваў. Увесь цывілізаваны сьвет, кіруючыся лібэральнымі каштоўнасьцямі, квітнее, дапамагае нам і зусім ня думае пра «моцную руку».

Як тут не ўзгадаць вядомы афарызм: «Калі ўрад ня можа забясьпечыць народу нармальнае жыцьцё, ён павінен даць яму максымум свабодаў». У грамадзтве, дзе дзелавая ініцыятыва знаходзіцца толькі ў зародку, грошы павінны літаральна «валяцца пад нагамі», каб у многіх людзей узьнікла жаданьне іх падняць. А гэта значыць, што падаткі павінны быць нізкія, хоць бы на першым часе. Такі мусіць быць клопат ураду пра сваіх грамадзянаў. А народ ужо сам накорміць сябе. Толькі ці пойдзе гэтым шляхам урад В.Кебіча?

**Ігар МАТАВІЛАЎ,**
**каардынатар Менскай гарадзкой рады БНФ.**

# Пачакаем

***Член Канстытуцыйнай камісіі дэпутат ВС БССР Валяньцін Голубеў заявіў карэспандэнту СВАБОДЫ, што праект новай Канстытуцыі, на яго думку, «стварае Беларускай дзяржаве ўсе ўмовы для самастойнага вольнага жыцьця, гарантуе ўсе дэмакратычныя правы й свабоды яе грамадзянам».***

Праект Канстытуцыі, у прыватнасьці, забараняе ўвядзеньне якой бы там ні было ідэялёгіі ў якасьці дзяржаўнай. Прадугледжваецца, што вышэйшы орган дзяржаўнай улады — Вярхоўны Савет (Сойм) будзе складацца са 160 дэпутатаў і стане прафэсійным. Ён можа быць тэрмінова распушчаны рашэньнем рэспубліканскага рэфэрэндуму.

У якасьці кіраўніка дзяржавы й выканаўчае ўлады прапануецца ўвесьці пасаду Прэзыдэнта Рэспублікі, які на час выкананьня сваіх паўнамоцтваў спыняе членства ў палітычных партыях ці арганізацыях. Выбіраецца Прэзыдэнт усім насельніцтвам. Праект прадугледжвае таксама бестэрміновае прызначэньне судзьдзяў усіх судоў Рэспублікі.

**В.Р.**










## Менск, 24—25 жніўня 1991г.:

# РАЗЬВІТАНЬНЕ ЗЬ ЛЕНІНЫМ

*Здымкі*
*С. ГРЫЦА, М. ЖЫЛІНСКАГА,*
*Я. КОКТЫЩА, Ул. МЯЖЭВІЧА, В. САПАГОВА.*



# “Я ВЕРУ ЯНАЕВУ”

## Такую заяву намесьніка старшыні ВС БССР Васіля Шаладонава чула ўся рэспубліка раніцай 21 жніўня па Беларускім радыё.

***Падаем поўны тэкст радыёінтэрвію з захаваньнем стылю пытаньняў і адказаў.***

**Карэспандэнт: — Як Вы расцэньваеце тое складанае й крытычнае становішча, якое склалася вакол прэзыдэнта СССР і прыходу да ўлады ГКЧП?**

**В.Шаладонаў:** — Неабходна адзначыць, што становішча вельмі складанае. Адназначна выказвацца сёньня цяжка, бо мы валодаем недастатковай інфармацыяй. Але тое становішча, што склалася ў дзяржаве, было складанае. Мы вельмі складана ўваходзім у зіму па паліву, па прадуктах харчаваньня. Таму сёньня мы павінны вытрымліваць спакой і парадак.

Што тычыцца прэзыдэнта, я не валодаю дакладнай інфармацыяй, зь якой можна было б зрабіць нармальныя высновы й сказаць: так, сапраўды, пэўныя цяжкасьці ёсьць у яго ным сыходзе. Але я веру тым людзям, якія заяўляюць, што прэзыдэнт хворы. І хацеў бы нагадаць адно, што сёньня дзейнічае Канстытуцыя Саюзу ССР. Мы не падпісалі новы Саюзны дагавор, а таму няма новай прававой базы. Застаўся дагавор 1922 году. Таму мы павінны выконваць усе законы, якія дзейнічаюць і прынятыя ў вадпаведнасьці з Канстытуцыяй Саюзу ССР.

На сёньняшні дзень выконваюцца ўсе канстытуцыйныя нормы. Уступае, сапраўды, на пасаду віцэ-прэзыдэнт. Засядаць будзе заўтра Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету СССР. Прызначана сэсія Вярхоўнага Савету СССР на 26-ае, якая й павінна даць ацэнку, наколькі правамоцныя дзеяньні гэтага камітэту на сёньняшні дзень.

**Кар.: — Скажыце, калі ласка, а што будзе прадпрымаць у гэтай сувязі Вярхоўны Савет рэспублікі?**

В.Ш.: — Мы прынялі такое рашэньне: адклікаць усіх членаў прэзыдыюму з адпачынку. Мы павінны ў любым выпадку кожны крок ці кожнае рашэньне надзвычайнага камітэту даваць яму ацэнку.

**Кар.: — Як я разумею, у рэспубліцы ня будзе стварацца камітэт надзвычайнага становішча?**

В.Ш.: — Не. Мы лічым, што ў гэтым няма неабходнасьці. У нас рэспубліка стабільная. І ў гэтых адносінах мы напэўна больш будзем працаваць на развіцьцё эканомікі. Нам трэба больш надаць увагі ўборцы ўраджаю й іншым пытаньням, якія зьвязаныя сёньня з жыцьцём і забесьпячэньнем людзей.

Але сёньня я прачытаў у «Народнай Газэце» заяву народных дэпутатаў склікаць надзвычайную сэсію. Я ня бачу ў гэтым неабходнасьці. Калі прэзыдыюм сёньня палічыць, што нейкае рашэньне патрабуе ацэнкі шырокага кола дэпутатаў Вярхоўнага Савету, ён у любым выпадку зьбярэцца, і ня будзе прэзыдыюм ніколі прымаць рашэньні, якія супярэчылі б развіцьцю дэмакратыі й стабілізацыі становішча ў цэлым па рэспубліцы.

**Кар.: — А як Вы расцэньваеце заяву прэзыдэнта Расеі Барыса Мікалаевіча Ельцына?**

В.Ш.: — Наогул, сёньня цяжка ацэньваць заяву. Трэба мець дастаткова інфармацыі. Але мы сёньня ў прэзыдыюме гаварылі: самае галоўнае, каб не атрымалася так, калі паны б'юцца, а народ пакутуе. Нам трэба, каб народ не пакутаваў у гэтым пляне. І калі ёсьць неабходнасьць у правядзеньні рэфэрэндуму дадатковага альбо параіцца з народам, то гэта трэба зрабіць. А пасьпешлівыя выказваньні ніколі не выклікалі радасьці ў людзей.

Мне думаецца, што сёньня самае галоўнае — захоўваць вытрымку, спакой, элемэнтарную павагу да тых законаў, Канстытуцыі СССР, якая сёньня дзейнічае. Яе ніхто не адмяніў.

**Кар.: — І апошняе пытаньне: як ведама, члены надзвычайнага камітэту гарантуюць нам навядзеньне парадку ва ўсіх галінах жыцьця. Але, як вядома, яны займалі высокія пасады й да гэтага. На Вашу думку, што ім перашкаджала рабіць гэта?**

В.Ш.: — Наогул, я павінен сказаць, што перабудова — гэта справа складаная. Мне здаецца, што праваахоўныя органы, якія непасрэдна вядуць барацьбу са злачыннасьцю, за праваПарадак, відаць, вельмі многа праяўлялі няпэўненасьці. Усе нешта заяўлялі пра дэмакратыю, развіцьцё дэмакратычных асноў. Са злачыннасьцю трэба змагацца законным шляхам і жорстка.

Таму мне здаецца, што сёньня такая цьвёрдая заява, што мы «будзем імкнуцца да навядзеньня праваПарадку ў цэлым па краіне», гэта відаць, надасьць сілы і ўпэўненасьці ў рабоце праваахоўных органаў. Гэта будзе праводзіцца ўсё ў вадпаведнасьці з законам.

# Загад № 489:

## усім працаваць на ГКЧП!

***Генэральны дырэктар Менскага гадзіньнікавага завода В.Абрамчык спрабуе перакачаць свой калектыў, што адміністрацыя не выконвала пастановаў ГКЧП, а клапацілася толькі пра цыяністы калій, каб яго хто ня скраў з прадпрыемства. Вось кароткая кроніка тых дзён.***

**ДЫРЭКТАР ДЗЕЙНІЧАЎ ВЕЛЬМІ АПЭРАТЫЎНА.**

19 жніўня ён выдаў загад №489. Цытуем: «В связи с обострением обстановки в стране и введением Чрезвычайного положения, — приказываю: 1. Руководителям строго и решительно пресекать любые нарушения трудовой дисциплины и внутризаводского распорядка; 2. Зам.ген.директора по кадрам и режиму Хитяеву Н.М. и начальнику ВОХР обеспечить усиленную охрану предприятия; 3. Ввести на период Чрезвычайного положения дежурства на предприятии ответственных работников».

Загад рыхтаваў начальнік 1-га аддзелу завода А.Бабіцкі — былы шэф КДБ Савецкага раёну г.Менску. Заводзкі калектыў зразумеў загад дырэктара як фактычнае прызнаньне ім законнасьці ГКЧП.

Аднак, як толькі пераварот праваліўся, В.Абрамчык імгненна адрэагаваў на новую «обстановку в стране». 22 жніўня дырэктар выйшаў з КПСС, таму што «ня згодны з пазыцыяй Палітбюро ЦК КПСС і ЦК КПБ». Загад № 489 ён растлумачыў так: «Гэта трэба было зрабіць, бо на заводзе захоўваюцца дзесяткі кілаграмаў золата й бочка цыяністага калію. А калі б яго хто захапіў? Ім жа можна было атруціць увесь Менск!»

**ЦІКАВАЯ ДЭТАЛЬ.** У першы ж дзень перавароту на завод прыбег В.Чыкін — другі сакратар Менскага гаркаму КПБ. І ў хуткім часе на інфармацыйных стэндах зьявіліся друкаваныя ўлёткі з пастановамі ГКЧП. Праўда, віселі яны нядоўга. Раніцай наступнага дня на тых самых стэндах рабочыя чыталі ўжо ўлёткі супраць хунты. Для барацьбы з «крамолаю» адміністрацыя выклікала на завод міліцыянтаў, якія паўдня лазілі па цэхах, зрываючы ўлёткі. Цыяністы калій нікога не цікавіў.

**З ПАРТКАМАМ РАЗЬВІТВАЛІСЯ 26 ЖНІЎНЯ.** З самай раніцы рабочая камісія, утвораная заводзкім страйкамам, апячатала шэсьць габінэтаў парткаму й тры камсамольскія пакоі. Ключы разам з актам перадалі начальніку «ВОХР».

Але праз тры гадзіны камісіі давялося зноў сабрацца каля парткаму. Пачатак не было, дзьверы пакінуты незамкнутымі. З шафы зьніклі фінансавыя дакументы. Усё астатняе засталося на мейсцы. Сакратар парткаму Асановіч заявіў, што ён тут ні пры чым, у яго, маўляў, цяпер іншыя клопаты (прымаў справы на новай пасадзе — нам.начальніка аддзелу завода). Дырэктар пагадзіўся выставіць каля парткаму стралка-"вохраўца".

**ГАДЗІНЬНІКІ ДЛЯ АПАЗЫЦЫІ БНФ.** 27 жніўня дырэктар запрасіў да сябе аднаго зь лідараў заводзкага страйкаму і паказаў узоры новых гадзіньнікаў: залачоны корпус, на цыфэрбляце — герб «Пагоня». В.Абрамчык папрасіў паказаць гадзіньнікі дэпутатам апазыцыі БНФ і сябрам Сойму Народнага Фронту. «Мне падабаюцца гэтыя маладыя, разумныя хлопцы, — сказаў ён. — Хай набудуць сабе нашыя гадзіньнікі».

Гадзіньнікі дэпутатам-апазыцыянэрам спадабаліся. Нехта толькі зазначыў, што надпіс «Сделано в СССР» ужо не адпавядае рэальнасьці.

**Мікола ГАВАРОЎСКІ**

# АПОШНІ ШАНЕЦ ПЭНСІЯНЭРА БРОВІКАВА

***Пэнсіянэр Уладзімер Бровікаў, які некалі кіраваў у ЦК КПБ, быў старшынёю Саўміну рэспублікі, а завяршыў сваю кар'еру паслом у Польшчы, меў выдатны шанец вярнуцца ў Крэмль. І Бровікаў скарыстаў яго. Але...***

"Вельмі рады й задаволены, што мы, нарэшце, знайшлі ў сабе сілы зрабіць рашучую спробу спыніць гэтае скочваньне ў бездань... Гатовы падпісацца ня толькі пад кожнай фразай, але й пад кожным словам гэтых дакумантаў, поўнасьцю іх падзяляю і выказваю падтрымку іх калектыўнаму аўтару — ГКЧП". Так заявіў Ул.Бровікаў 19 жніўня ў інтэрвію "Віцебскаму рабочаму".

Роўна праз тыдзень у той самай газэце зноў чытаем інтэрвію з Бровікавым. Ухваленае ім ГКЧП ён называе цяпер ужо "злачынная васьмёркай", — "разам з усімі я катэгарычна й няшчадна асуджаю іх антыканстытуцыйныя дзеяньні".

Маўчаў бы ўжо.

Зрэшты, у Віцебску на хунту паставілі ня толькі пэнсіянэры.

Напрыклад, шэф абласнога КДБ В.Бурак у гарадзкой газэце "Віцьбічы" заявіў: "Як орган дзяржаўнага кіраваньня мы стаім на варце канстытуцыйнага ладу. Камітэт па надзвычайнаму становішчу ў СССР створаны ў вадпаведнасьці з Канстытуцыяй СССР, з гэтага вынікае, што мы будзем кіравацца ягонымі рашэньнямі".

А начальнік абласной міліцыі А.Кляшчонак выказаўся па-простаму: "Даўно пара навесьці парадак... Добра, што прапаноўваецца часова забараніць мітынгі й забастоўкі. Думаем, што і ў нас ёсьць мейсцы, дзе можна ўвесьці надзвычайнае становішча". Вось так!

Як гэта ні дзіўна, але ні адзін, ні другі падаваць у вадстаўку не зьбіраюцца.

**Аркадзь ВАЛОВІЧ**

# “Мы параіліся й вырашылі...”

***Па розныя бакі барыкадаў апынуліся ў час путчу два народныя дэпутаты БССР з Рэчыцы — Анатоль Турок, дырэктар гідролізнага завода і Іван Бамбіза, старшыня райвыканкаму.***

На неафіцыйнай нарадзе, якая адбылася ў Рэчыцы раніцай 20 жніўня, ніхто зь мяйсцовага начальства не падтрымаў дэпутата А.Турка, які настойваў асудзіць хунту і прыняць зварот да насельніцтва з заклікам не падтрымліваць путчыстаў і не выконваць пастановаў ГКЧП.

Найбольш катэгарычна выступіў супраць гэтай прапановы В.Тарасенкаў — дырэктар завода "Рытм", які працуе на ВПК.

На ягоны бок стаў і дэпутат ВС БССР старшыня райвыканкаму І.Бамбіза, які заявіў, што такога прэзыдэнта, як Гарбачоў, даўно трэба было прыбраць. Праўда, пашкадаваў ён, варта было зрабіць гэта больш "этычным" шляхам. Аднак, працягваў Бамбіза, калі знайшліся сьмелыя людзі, здольныя навесьці парадак у краіне, дык ім і карты ў рукі. А нам, маўляў, трэба працаваць, зьбіраць ураджай. Ад імя мяйсцовай улады ён сказаў, што "мы параіліся й вырашылі не займаца палітыкай". Выказваючы сваё асабістае стаўленьне да першых пастановаў ГКЧП, Бамбіза заявіў, што падзяляе кожны пункт "Заявления советского руководства".

Няўжо ўсё гэта й цяпер ім сыйдзе з рук?

**В.КУРАЕВА, А.ПІНЧУК, В.КАЗЛОЎ, В.ГУЛАЙ, А.БАРАНАЎ**

Рэчыца

## Хунта раённага маштабу

***Жыхары Мазыра запатрабавалі ад гарадзкой пракуратуры ўзбудзіць крымінальную справу супраць старшыні гарвыканкама Івана Замулкі, які "актыўна садзейнічаў ГКЧП".***

Доказам гэтага зьяўляецца выступленьне І.Замулкі 20 жніўня на мяйсцовым кабельным тэлебачаньні, дзе ён у прыватнасьці, паведаміў, што ў развіцьцё пастановаў ГКЧП у Мазыры створана "камісія па надзвычайнаму становішчу" і нейкі "аргкамітэт". Старшыня схіляў грамадзянаў падтрымаць хунту, пагражаў увядзеньнем у горадзе надзвычайнага становішча, "калі ў гэтым узьнікне патрэба". Народнаму дэпутату СССР М.Фяськову (група "Саюз") ён рэкамэндаваў выказацца ад імя горада на сэсіі ВС СССР у падтрымку ГКЧП.

Пракуратура вядзе сьледзтва

**Г.А.**

## Падпісанты

***Як высьветліла СВАБОДА, вядомы "Зварот Прэзыдыюма ВС БССР да беларускага народу", у якім, па сутнасьці, была выказана падтрымка хунце, падпісалі 15 з 25 членаў Прэзыдыюму.***

Па прозьбе чытачоў падаем прозьвішчы дэпутатаў-падпісантаў: **М.Дземяньцей, В.Шаладонаў, Р.Унучка, Ул.Гаркун, М.Жукоўскі, Я.Жуковіч, Л.Козік, І.Карпатчэня, А.Кулічкоў, Ул.Лецчык, Б.Савіцкі, Г.Сівіцкі, І.Смоляр, М.Капытоў, С.Котаў.**

# ПА АДНОЙ СПРАВЕ НЕ ПРАХОДЗЯЦЬ...

***Сымптомы путчу выявіліся ўжо 15 жніўня — так лічаць многія вайскоўцы Беларускай акругі.***

У гэты дзень войскі БВА былі паднятыя па трывозе й адведзеныя ў запасныя раёны дыслякацыі. 18 жніўня свае прафэсійнае сьвята лётчыкі акругі правялі ў вучэбных палётах, што ніколі раней не рабілася — "сьвяты дзень". 19 жніўня стала ясна, што трывога была не дарэмная.

У першы ж дзень у вакруговую газэту «Во славу Родины» ад намесьніка начальніка палітуправы акругі Казачэнкі паступіў загад рыхтаваць нататкі з войскаў у падтрымку ГКЧП. Але вайсковыя журналісты катэгарычна адмовіліся хваліць хунту.

У Менскай палітвучэльні кіраўніцтва загадала паздымаць партрэты Гарбачова і залеціць ягонае імя на ўсіх прапагандысцкіх стэндах.

У той самы час, 19 жніўня ў вадным зь менскіх палкоў унутраных войскаў зампаліт падпалкоўнік Генадзь Другкоў загадаў не выконваць ніякіх пастановаў ГКЧП і заставацца вернымі законна абранаму прэзыдэнту СССР і Канстытуцыі СССР. Партыйныя ўзносы полк міліцыі вырашыў накіраваць у фонд падтрымкі прэзыдэнта Расеі Ельцына.

На жаль, вайскоўцы Беларускай акругі, кінутыя год таму ў Баку душыць народны фронт, сьлепа выконвалі загады Язава, Пугі, Кручкова. Але пасьля Баку людзі ў войску задумаліся: а што, калі заўтра прымусяць страляць у Менску? Многія зь іх казалі, што ў такім выпадку адмовяцца выконваць загад. Дзякуй Богу, на Беларусі ў жніўні не стралялі...

**А.Д..**



**Гэты здымак быў зроблены 20 жніўня ў Менску на ст. Радыятарная. Адкуль і зь якой мэтаю прыгналі сюды восем вагонаў —"закаў", зробленых, відавочна, насьпех? Цікава таксама, што праз два дні краты з вагонаў пачалі зразаць.**

 

# Заява Каардынацыйнае Рады беларускіх згуртаваньняў і арганізацый у Летуве

У сувязі зь інфармацыяй у друку ("Народная газета", 5.09.91) пра тое, што міністар замежных справаў БССР П.Краўчанка выступіў з прапановай вярнуць БССР «многие белорусские национальные ценности, находящиеся сейчас в Вильнюсе», беларусы Вільні выказваюць сваю глыбокую занепакоенасьць. Такі падыход МЗС БССР ставіць пад пагрозу пераемнасьць шматвяковай культурнай традыцыі аўтахтоннага беларускага насельніцтва Вільні, сёньняшнія спробы адраджэньня віленскіх беларускіх асяродкаў (музэй, бібліятэка, архіў, гімназія і г.д.), добрыя дачыненьні беларусаў зь летувісамі. Беларускія скарбы Вільні — гэта ня толькі рухомыя, але й нерухомыя помнікі, якія разам утвараюць непадзельную спадчыну ўсяго беларускага народу.

Ня першы раз выступаючы з канфрантацыйнымі патрабаваньнямі да летувіскага боку, улады БССР нічым рэальна не паспрыялі беларускаму насельніцтву ў Летуве. Лічым неабходным да пачатку афіцыйных перамоваў паміж БССР і Летувіскай Рэспублікай правесьці кансультацыі адказных асобаў з прадстаўнікамі беларускіх установаў і арганізацый Вільні й Віленшчыны.

**Таварыства Беларускае культуры (Хв.Нюнька)**
**Клюб «Сябрына» (Л.Кардзіс)**
**Асяродак Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў (Л.Луцкевіч)**
**Беларуская рэдакцыя тэле- й радыёперадачаў (Т.Дубавец)**
**Аргкамітэт Асацыяцыі беларускіх настаўнікаў у Летуве (Т.Каротчанкава)**
**Ініцыятыўная група па стварэньні філіі Скарынаўскага цэнтру ў Вільні (С.Шупа)**
**Рэдакцыя газэты «Наша Ніва» (С.Харэўскі)**
**Рэгіянальная рада БНФ у Летуве (Ю.Шаўцоў)**

**6 верасьня 1991 г.**

**P.S. Калі вярстаўся нумар, мы зьвязаліся з старшынёю камісіі ВС па міжнародных дачыненьнях Пятром Садоўскім, які паведаміў наступнае: «9 верасьня, па дамоўленасьці з в.а. старшыні ВС БССР С.Шушкевічам, я выклікаў намесьніка міністра замежных спраў БССР У.Сянько і афіцыйна перадаў яму рэкамэндацыю ВС неадкладна прыпыніць перамовы зь Летувіскаю Рэспублікай да ўзгадненьня зь Вярхоўным Саветам пазыцыі МЗС БССР на перамовах».**

# ЯШЧЭ АДНА НЕВЯДОМАЯ ВАЙНА

***Савецкія гісторыкі старанна замоўчвалі той факт, што II-я Сусьветная вайна пачалася для беларусаў значна раней за 22 чэрвеня 1941 году.***

Ужо 2 верасьня 1939 году, на другі дзень ад пачатку вайны нямецкая авіяцыя бамбіла Берасьце, а 4 верасьня — Баранавічы. Нямеччына тады была нашмат бліжэйшая. Усходняя Прусія пачыналася ў сотні кілямэтраў ад Берасьця.

Беларусы, у форме польскага жолнежа з польскім «маўзэрам» 1928 году ўзору ў руках, баранілі Матку-Польшчу. Гарнізон Берасьцейскай цытадэлі (ён складаўся з нараджэнцаў Берасьцейшчыны) спыніў танкавы кулак Гудэрыяна. Спыніў сваімі шасьцю францускімі танкамі ўзору 1917 году, якімі папросту завалілі браму, бо яны не маглі рухацца. Гэты гарнізон не пакінуў надпісаў на сьценах. Ён біўся, пакуль не засталося 50 чалавек, якія сышлі праз лёхі.

Праз 21 месяц беларусы ў форме савецкага войска з расейскай «мосінкай» 1898 году ўзору будуць бараніць матухну Расею ў тых самых мурох. Гэта мы памятаем добра. Але трэба памятаць і верасень 1939 і прадбачлівасьць генэрала Сікорскага: «Так, немцы адбяруць у нас волю, але маскалі адымуць у нас душу».

**Міхал ГРЫГОР'ЕЎ**

# БІТВА ПАД ВОРШАЙ: адзін супраць трох

***8 верасьня 1514 году найвышэйшы гетман Вялікага княства Літоўскага Кастусь Астрожскі, маючы каля 30 тысячаў войска, дазваньня разьбіў пад Воршай 80-тысячную маскоўскую арду.***

Гэты дзень увайшоў у памяць пакаленьняў нашых продкаў. Пра яго расказвалі паданьні, яго ўслаўлялі летапісы, аб ім складалі песьні.

Калі йшло да Полацкай вайны, вялікі князь і кароль Жыгімонт Аўгуст не прамінуў нагадаць Івану Жахліваму: «Калі хочаш бітвы, дык ідзі са сваім войскам да Воршы, дзе Канстанцін Астрожскі даў вам сябе ведаць!». І калі ў 1564-м, пасьля разгрому В.Шуйскага на Іванскіх палёх пад Чашнікамі, удалося лёгка адагнаць і другое, 30-тысячнае маскоўскае войска ад Дуброўны, дзе тыя, уцякаючы, пакідалі ўсё, што маглі, летапісец не забыўся адзначыць: «Такой вялікай здабычы і пры вялікай бітве Аршанскай ня ўзята!» А беларуская гістарычная песьня, апяваючы перамогу пад Воршай, перадавала, як уцякалі маскоўскія ваяўнікі з Крапіўны, як праклінялі яны мейсца сваёй паразы: «Бадай ты, рэчка, сто год высыхала, як наша слава тутака прапала...»

Пра той дзень калісьці ўведала ці ня ўся Эўропа. Сам папа рымскі сьвяткаваў вялікапышную перамогу гетмана літоўскага над масквітамі. Аб ёй напісалі ўсе эўрапэйскія газэты. Імпэратар Максіміліян адмовіўся ад блёку з Масквою й не пажадаў браць на сябе аніякіх ваенных абавязкаў. Так развальўся небясьпечны эўрапэйскі альянс супраць Вялікага княства Літоўскага й Кароны Польскай, створаны ініцыятывай Маскоўскае дзяржавы і Сьвяшчэннай Рымскай імпэрыі нямецкай нацыі. Гэтыя альянты ўжо мелі дамову ў выпадку перамогі падзяліць беларускія, украінскія й польскія землі паміж сабою...

Сувэрэнітэт краіны быў абаронены. Там, пад Воршай, палеглі дзесяткі тысячаў тых, хто ўжо лічыў сябе гаспадаром Беларусі. Тысячы іх трапілі ў палон і доўга-доўга сядзелі ў Берасьці, Горадне, Драгічыне, Камянцы, Наваградку, Слоніме, Вільні ды іншых гарадох. Бо вялікі князь маскоўскі Васіль III абвесьціў, што для яго «той, хто трапіў у палон — не жыве», і фактычна адмовіўся ад сваіх падданых, ім жа пасланых на заваёвы.

Памятайма ж пра дзень, у які гераічныя ваяры Астрожскага выйшаўшы адзін на трох, паводле словаў летапісца, выратавалі «церкви Божии христианьскии и многых мужей и жон от них насилованья», абараніўшы вольную краіну ад чужога панаваньня.

**Г.С.**

# ЗНОЎ "ТУТЭЙШЫЯ"

***На кінастудыі «Беларусьфільм» пачалася праца над фільмам «Тутэйшыя» паводле трагічна-сьмяшлівых сцэнаў Янкі Купалы.***

***Дзяржава ня здолела знайсьці грошай, каб фундаваць здымкі «Тутэйшых». Дзякуй Богу, дапамог спонсар: фірма «Гарант». А кінастудыя пагадзілася выконваць адно тэхнічныя паслугі.***

***Рэжысэр фільма Валерый Панамароў мяркуе скончыць працу ў верасьні 1992 году. Музыку да фільма ўзяўся напісаць Уладзімер Мулявін.***

***Адзінае, што на сёньняшні дзень у распачатай працы набыло цалкам завершаную форму, дык гэта літаратурны сцэнар. Аўтары сцэнару Адам Глёбус, Максім Клімковіч Міраслаў Шайбак прапануюць чытачом «СВАБОДЫ» пазнаёміцца зь невялікім урыўкам.***

Частка 4

Панарама сучаснага Менску.

З градзірняў і комінаў ТЭЦ-3 сьцелюцца пара й дым, што засьцілаюць панарамы Трактарнага завода, чыгунку, пакгаўзы, склады.

Дым гусьцее й ператвараецца ў суцэльную бель, зь якой праз нейкі час пачынае праяўляцца фатаграфічная паштоўка зь менскімі чыгуначнымі складамі пачатку нашага стагодзьдзя.

На манахромнай паштоўцы чырвоны надпіс «Менск. Чэрвень, 1920 год».

* * *

Склады ля чыгункі.

Па рэйках бягуць людзі з кашамі, вёдрамі, мяхамі, сярод іх бяжыць Мікіта Зносак. Побач зь ім кабета цягне за руку дзяўчынку.

Вялікі дзяцюк ломам падважвае замок на складзкой браме, побач зь ім стаіць Маленькі чалавек і рагоча.

Завала адкідаецца набок.

Брама расхінаецца, і людзі бягуць у чорны прагал, не раўнуючы, як на штурм Зімняга палаца ў Санкт-Пецярбургу.

У натоўпе вылучаецца Мікіта з узнятымі над галавою вёдрамі, побач зь ім крамнік Боршчык зь вялізным, як падняць, кашом.

Малы чалавек хапае вялікі мех з мукою, падымае й падае зь ім.

Вялікі дзяцюк, што падважваў замок, наступае на Малога чалавека, забірае мех, ускідвае сабе на плечы, надзяе сабе на шыю конскі хамут і сыходзіць.

Мікіта з Боршчыкам наліваюць зь вялікай бочкі ў вёдры патаку.

Дзьве кабеты б'юцца за скрыню зь пячэньнем.

Дзеці цягнуць скрыню з гарэлкай.

Стары дзед прымервае на сябе жаночыя станікі й майткі.

Сьпічыні на складзе хапае кардонную скрыню, да яго падлятае Абарванец, вырывае скрыню з рук і б'е Сьпічыні ботам паміж ног. Сьпічыні падае, зь яго галавы зьлятае й коціцца чорны кацялок. Абарванец, наступіўшы нагою на кацялок, уцякае.

Абарванец бяжыць уздоўж пакгаўза, заварочвае за рог.

Маленькая дзяўчынка, пакуль маці б'ецца за скрыню зь пячэньнем, дастае запалкі й падпальвае бікфордаў шнур, што цягнецца да вайсковых скрыняў.

Абарванец на пустыры акуратна распакоўвае скрыню, са скрыні сыплюцца на зямлю шаўковыя белыя й чорныя ярмолкі і аксамітныя рознакаляровыя цюбяцейкі. Абарванец разьбівае скрыню аб зямлю, плюе, хрысьціцца й пачынае яе таптаць.

Агеньчык бяжыць па бікфордавым шнуры.

Вялікі дзяцюк зь мехам мукі на плячы наступае ботам на шнур і зьнікае ў сьветлым прагале складзкой брамы.

Падчас рабаваньня складоў гучыць песьня на словы Янкі Купалы «Разлад»:

Куды ні глянеш — людзі, людзі,
Куды ні глянеш — шэльмы, шэльмы...

(...)

Дзяўчынка зноў падпальвае бікфордаў шнур.

З-за вагонаў, хістаючыся, выходзіць п'яны ў дым Абарванец. Вялікі дзяцюк, ён ужо безь мяха, падыходзіць да Абарванца й пачынае трэсьці яго, дамагаючыся, каб той паказаў, дзе напіўся. Абарванец паказвае на цыстэрну. Вялікі дзяцюк хоча адпіхнуць яго, і ў гэты момант Абарванца ваніту е на Вялікага дзецюка.

Мужчыны кідаюць нарабаванае й бягуць да цыстэрны. Сярод іх бяжыць Малы чалавек з ломам.

Мужчыны адкручваюць кран і хто ў што: у капелюшы, у талеркі, у боты, у цюбяцейкі наліваюць сьпірт. Адно Малы чалавек ніяк ня можа дапасьці да крана. Увесь час яго адпіхвае Вялікі дзяцюк. Малы чалавек адбягаецца, замахваецца ломам і хоча ўдарыць Вялікага дзецюка, але прамахваецца, і лом трапляе ў цыстэрну, прабівае яе.

Сьпірт пругкім струменем б'е Малому чалавеку ў твар. Вялікі дзяцюк адпіхвае яго й падстаўляе вядро.

Каля цыстэрны ўжо назьбіраўся добры натоўп заведзеных мужчынаў.

Агонь бяжыць па бікфордавым шнуры.

Малы чалавек зноў замахваецца ломам і б'е па плячах Вялікага дзецюка.

Пачынаецца бойка.

Сьпірт цячэ па зямлі.

Ручаінка сьпірту зацякае ў пакгаўз.

Бойка набывае размах.

Б'юцца ўсе.

Вялікі дзяцюк адной рукою топіць Малога чалавека ў вядры са сьпіртам.

Абарванец падымае камень і пускае ў голаў Вялікаму дзецюку.

Мужчына ў кепцы хапае Абарванца за шыю й душыць.

Падшыванцы выцягваюць з-пад колаў цыстэрны калодкі.

Пяць мужчынаў адзін за адным б'юць іншым пяцём мужчынам аднаму за адным кулаком у твар, тыя валяцца, не раўнуючы, як снапы лёну на берагох Нямігі.

Ручаінка сьпірту дабягае да бікфордавага шнура, сьпірт успыхвае.

Двое сялянаў хапаюць крамніка Боршчыка за рукі, разганяюць і б'юць аб цыстэрну галавой. Цыстэрна кранаецца, зь яе валяцца на зямлю п'яныя мужчыны.

Агонь дабягае да цыстэрны. Полымя ахоплівае яе. Цыстэрна ўся ў вагні коціцца па рэйках.

***І яшчэ колькі слоў пра сцэнар.***

***Каб максымальна захаваць Купалаў твор і разам з гэтым усё ж перавесьці п'есу ў кіно, аўтары сцэнару выкарысталі наступную кампазыцыю: усе дыялёгі засталіся купалаўскія, адно былі пакарочаныя, бо п'еса йдзе больш за дзьве гадзіны, а фільм будзе аднасэрыйны, усе сцэны, што дадаваліся, напісаны ў жанры нямога кіно. Збольшага гэта сцэны, якія абгаворваліся ў п'есе, але заставаліся так бы мовіць «за кадрам»: высяленьне — казакі сякуць шаблямі сялян, жыдоўскія пагромы, рабаваньне складоў, адвітальны раўт польскіх афіцэраў, купальле...***

# ПРАПІТЫ РОЗУМ

У Польшчы на аднаго жыхара прыпадае ў сярэднім звыш 10 літраў сьпірту. Ужываньне алькаголю ў Беластоцкім ваяводзтве і, у прыватнасьці, у яго ўсходніх гмінах ня дужа розьніцца ад сярэдняга па краіне. Пануючае ў Польшчы п'янства — гэта сама па сабе праблема, якая сьведчыць пра не найлепшы стан усяго грамадзтва. Пакідаючы аднак у баку зьвязаныя з гэтым такія праблемы як алькагалізм, разводы, злачыннасьць і г.д., зьвернем увагу на пэўную спэцыфіку, уласьцівую жыхарам Бельску, Гайнаўкі, а таксама «вялікага» места Беластоку.

Пасьля выпіцьця найтаньнейшай «чыстай» ды пары куфляў піва, перад такім чалавекам распасьціраецца прывідны сьвет і наросхрыст адкрываецца душа «тутэйшага». Тады кожны адчувае сябе прывольна і ўсе размаўляюць «па-свойму» (г.зн. па-беларуску), нават калі ў кампаніі прысутнічаюць ня толькі «свае». Найчасьцей пры такой аказіі вечаровую цішу перарываюць выкрыкі (ня блытаць са сьпевам) тэкстаў песень з рэпэртуару гурту «Дубіны», а ў якасьці заставак сыплюцца featured рознага роду праклёны.

Падобныя сытуацыі маюць, напэўна, мейсца таксама й на польскім грунье, дзесьці ў Ванхоцку, Шчэціне, ці сталічнай Варшаве і ўвогуле не зьяўляюцца выключным сьведчаньнем беларускай спэцыфікі Усходняй Беласточчыны. Спэцыфічным зьяўляецца толькі пэўны момант: так паводзяць сябе людзі, якія звычайна лічаць сябе «тутэйшымі палякамі».

Пад уплывам алькаголю мінае страх перад выдумлёнай пагрозай, адступае незразумелая засьцярога да «горшай» — на думку некаторых — але ж культуры. Напаверх вылазіць закадаванае дзесьці там у думках уласнае Я — на жаль, відавочна, у крайнім і ненатуральным мамэньце, а ў дадатак непрыемным для атачэньня.

У штодзённым жыцьці людзі з розных прычынаў ня хочуць прызнавацца ў сваёй беларускай прыналежнасьці. Думаюць, што праз слоўны камуфляж — «я тутэйшы паляк» — будуць непадзельнаю часьцінаю польскага грамадзтва. Але, як досыць часта бачна й чутна, — вылазіць зь іх «д'ябальская» натура. Тады толькі кожны ўважае сябе за героя і праклінае і таго й сяго. Аднак адвага мінае назаўтра, разам з нарастаньнем пасьляалькагольнага сындрому, а гэты чалавек зноў застаецца шэрым жыхаром Усходняе Беласточчыны.

Такія людзі вельмі бедныя ня толькі матэр'яльна — бо выдаткуюць палову заробка на гарэлку, але бедныя таксама духова — ня ў стане супрацьстаяць хуткім зьменам рэчаіснасьці. Яны прыносяць шкоду ўсяму польскаму грамадзтву. Але на нас гэта дзейнічае з падвойнаю сілаю: здараецца так, што ні ў чым не вінаватыя, спакойныя людзі саромеюцца сваёй беларускасьці, між іншым, праз тых чырвона-сініх фруктаў, якія, на жаль, можа, ужо прапілі свой розум.

**«Czasopis» (Польшча)**

Пераклаў **Ігар КАРПІКАЎ**



 

